

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

# Газета Слонімская

№ 33 (114). 12 — 18 жніўня 1999г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 30.000 руб.

ПРАБЛЕМА

## ЧАРГА ПА ХЛЕБ



Фота Мікалая Супруна

Амаль кожны дзень слонімцы з самай раніцы займаюць чаргу па хлебныя вырабы каля магазіна "Гарачы хлеб", што на Савецкай вуліцы.

Даведаўшыся пра гэта, на мінулым тыдні я таксама вырашыла пастаяць у чарзе па хлеб, каб адчуць увесь «цуд» гэтага працэсу.

"Магазін адчыняецца ў дзевяць гадзін, і таму мне трэба прыйсці дзесьці ў палове сёмай, тады буду самай першай у чарзе," — разважала я. Выйшла з хаты ў шэсць гадзін, каб у разлічаны час апынуцца на месцы. Але самай першай не паспела: каля магазіна ўжо стаялі людзі сталага ўзросту. На маё пытанне, калі ж яны прыйшлі, адна бабуля адказала: "Я прыйшла ў пяць гадзін раніцы, але тут ужо сядзелі дзве жанчыны". Потым яна ўважліва паглядзела на мяне і заявіла: "Новенькая. Будзеш стаяць за дзедам". Я не пярэчыла.

Бабулі пачалі расказваць мне, што стаяць па танны хлеб амаль кожны дзень, што гэта вельмі выгадна для іх, што на ўсё пенсіі не хапае, таму трэба эканоміць. "А ты не саромейся, сядай, — прапанавала адна жанчына і паказала на нейкую драўляную лаўку каля самай зямлі. — Да адкрыцця магазіна яшчэ доўга чакаць".

Праз некаторы час на мяне ўжо ніхто не звяртаў увагі. Бабулі гутарылі пра жыццё, і толькі на некалькі хвілін перапыняліся, калі хто-небудзь падыходзіў і займаў чаргу. Непрыкметна людзей рабілася ўсё больш і больш. Мае самыя першыя суразмоўніцы пайшлі дахаты папіць гарачай гарбаты, бо вельмі замёрзлі.

*(Працяг на 2 стар.)*

ЗДАРЭННІ

### Горкая бульба

**Жыхары М. і Р. з Наваельні Дзятлаўскага раёна ўкралі з поля калгаса імя Заслонава сем мяшкоў маладой бульбы.**

Праз пэўны час іх затрымала міліцыя.

### Надакучыла сварыцца

**Трыццацігадовая жыхарка Дзятлава пасварылася са свякрухай і вырашыла звесці рахунак з жыццём.**

Яна прыняла вялікую колькасць таблетак і ў шокавым стане была дастаўлена ў райбальніцу.

### Праваліўся ў бітум

**Жыхар Ліды О. прыехаў у санаторый "Наваельня" адпачыць.**

У час прагулкі па пасёлку ён зайшоў да аднаго са складоў на мясцовай чыгуначнай станцыі і праваліўся ў яму, дзе захоўваецца бітум.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Удалы рэйд

**На гэтым тыдні брыгада Гродзенскай ДАІ здзейсніла рэйд на тэрыторыю Мастоўскага раёна.**

За некалькі гадзін, акрамя дробных парушэнняў, было затрымана шэсць вадзіцеляў, якія кіравалі аўтамабілем у нецвярозым стане.

**Антон МАКЕЙ**

### Перавярнуўся аўтафургон

**Каля Зэльвенскага вадасховішча з'ехаў у кювет польскі аўтафургон і перавярнуўся.**

Ён быў гружаны тэкстылем. Вадзіцель не пацярпеў.

Трое сутак зэльвенская міліцыя ахоўвала груз, а калі прыехаў прадстаўнік з Варшавы, тэкстыль быў пагружаны на другую машыну і адпраўлены па назначэнню.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Убил человека ногами

**Словесная перебранка двух жителей Мостов во дворе дома по Цветочной улице вскоре переросла в ссору.**

Толкнув' своего "противника", 33-летний Н. принялся "обхаживать" его ногами. Телесные повреждения оказались настолько серьёзными, что мужчина, спустя несколько дней, скончался в больнице. Возбуждено уголовное дело.

**Михаил ОКУЛКО**

### Не размінуўся "Форд" з дрэвам

**На мінулым тыдні ў бальніцу з калецтвамі рознай ступені былі дастаўлены адразу восем юнакоў і дзяўчат — жыхароў вёскі Засімавічы Слонімскага раёна.**

Як стала вядома, у той вечар мясцовы хлопец вырашыў пакатаць на бацькавым "Фордзе" сваіх сяброў. Пасадзіўшы ў салон больш дзесяці пасажыраў, ён не справіўся з кіраваннем аўтамабіля і стукнуўся ў дрэва.

### Трагедыя на пераездзе

**Трагедыяй завяршылася сутыкненне легкавога аўтамабіля з цягніком, якое адбылося вечарам 7 жніўня на чыгуначным пераездзе на вуліцы Пушкіна ў Слоніме.**

Вадзіцель прыватнага аўтамабіля старшы лейтэнант міліцыі Ігар Адамовіч ад атрыманых траўмаў памёр на месцы здарэння.

### Затрымалі з «зеллем»

**На вуліцы Касманаўтаў у Слоніме міліцыя затрымала раней судзімага слонімца А.**

Пры сабе ён меў 40 грамаў макавай саломкі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НАВІНЫ

## Завяршылі жніво

**Пяць гаспадарак Слонімскага раёна завяршылі ўборку зерневых культур. Гэта калгасы "1 мая", імя Суворава, імя Дзяржынскага, "Прагрэс" і саўгас «Сасноўка».**

Найвышэйшая ўраджайнасць — 28,1 цэнтнера з гектара — у калгасе "Прагрэс", а найбольшы валавы збор збожжа ў калгасе "1 мая" — 6430 тон.

Больш за ўсіх — 1073 тоны збожжа намалаціў экіпаж камбайна "МДВ" з калгаса "Чырвоны партызан" у складзе Аляксандра і Сяргея Каўчуноў.

Першае месца сярод вадзіцеляў па перавозцы зерня заняў Сяргей Лейка з калгаса "Чырвоны партызан", які на аўтамашыне "ГАЗ-53" даставіў з поля на ток 2300 тон збожжа.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Напад на мячэць



**Позна ўвечары 9 жніўня невядомыя ўчынілі акт вандалізму ў слонімскай мячэці.**

Каля 10 гадзін вечара, хтосьці пабіў вокны мячэці, а пасля спрабаваў трапіць праз адно з іх у будынак, але вандалаў спынілі краты. Выкліканая суседзямі міліцыя злачынцаў не затрымала, бо яны паспелі ўцячы... Трэба адзначыць, што здарэнне адбылося напярэдадні з'езду татарскай моладзі Беларусі, які пройдзе ў Слоніме.

**Сяргей ЁРШ**

**На здымку:** старшыня слонімскіх мусульман Сулейман Байрашэўскі на месцы здарэння.

## ВЯРТАННЕ АТРЫБУТА

Тыдзень назад на Чырвонаармейскай вуліцы супраць раённага дома культуры з'явілася "Доска пачёта". Пры саветах яна знаходзілася насупраць кінатэатра "Мір". А потым гадоў дзесяць яе ў Слоніме не было. І вось цяпер раённыя і гарадскія ўлады вырашылі аднавіць гэты атрыбут савецкіх часоў. Відаць, нехта вельмі моцна засумаваў па брэжнеўскіх гадах застою. Але цяпер час не той, і новае пакаленне слонімцаў са смехам сустрэла з'яўленне "доскі". Ці не лепш было б на гэтым месцы зрабіць рэкламны стэнд, дзе месціліся б афішы дома культуры, драмтэатра, кінатэатра, і тых, хто прыязджаў бы на канцэртныя гастролі ў Слонім. Тым больш, што падобных "досак" няма ні ў адной краіне свету. І я, шчыра кажучы, не зайздрошчу людзям, чыя партрэты (а іх аж 26) вісяць на "доске почёта". Дарэчы, у нядзелю, 8 жніўня, са слова "доска" знікла літара "о", а ў двух месцах ужо пабіта шкло. Дык каму патрэбна гэта "прыгажосць"?




Фота Мікалая Супруна

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## У СЛОНІМЕ ЗДЫМАЕЦЦА КІНО

**У Слоніме пачаліся здымкі мастацкага фільма па аповесці У. Багамолава "Момант ісціны (У жніўні 1944-га...)". Напрыканцы мінулага тыдня здымачная група "акупіравала" слонімскі вакзал...** *(Працяг на 3 стар.)*





 



# У СЛОНІМЕ ЗДЫМАЕЦЦА КІНО



Фота Мікалая Супруна

*На пярэднім плане артыст Віктар Паўлаў*

Гледзячы на падрыхтаваныя "дэкарацыі" на пероне вакзала, нават не верылася, што так здымаецца фільм, які павінен стаць знакамітым. Але нашы рэжысёры ўмеюць тварыць цуды... У Слонім прывезлі старыя аўтамабілі, "кацюшы" і іншую ваенную тэхніку 40-х гадоў. Частка машын з гэтага парка з'яўляецца ўласнасцю "Беларусьфільма", рэшту здалі ў арэнду вайскоўцы. Прыгналі і два старыя паравозы з вагонамі. На траве, чакаючы здымак, ляжалі дзесяткі салдат, узброеных аўтаматамі ППШ, іншыя вайскоўцы цягалі з вагона ў машыну мяхі. Побач сабраліся слонімцы паглядзець на такое дзіва. Бегае памочнік рэжысёра з мегафонам, спрабуе ўнесці асэнсаванасць у дзеянні здымачнай групы, кліча на дапамогу міліцыю. Адным словам — у Слоніме здымаецца кіно.

Здымкі эпізодаў на вакзале працягваліся некалькі дзён. Па словах другога рэжысёра фільма Віктара Скарабагатава, з 12 жніўня на працягу чатырох дзён здымкі будуць адбывацца на вуліцах горада і на рынку. "Кіношнікі" спяшаюцца, бо хочуць зрабіць фільм менавіта ў жніўні 1999-га.

**Сяргей ЁРШ**

# ДАЖЕ В МАССОВКЕ БУДУТ ЧУВСТВОВАТЬ СЕБЯ АКТЁРАМИ

В воскресенье вечером, 25 июля, в слонимском доме культуры собрался разночинный народ. Там можно было встретить и шумящую детвору, и молодёжь, и людей старшего возраста. Все они пришли на пробы с надеждой сниматься в фильме «Момент истины». Конечно, я знала о том, что Слоним — культурный городок, но и представить себе не могла, что в нём живёт столько "артистов"!

Для многих это был самый настоящий праздник. Мамы нарядили свои чада в парадную одежду, девочкам завязали красивые бантики. Старики достали залежавшиеся в шкафах костюмы, а некоторые пришли даже с медалями (а вдруг поможет при съёмках!). Женщины и девушки также не отставали от остальных конкурсантов.

Итак, парадно разодетые слонимчане уже были готовы к бою, но не тут-то было. По плану режиссёр фильма лично должен был встречать всех собравшихся в зале. Но, как это часто у нас бывает, планы подвергаются дополнению или изменению. Так произошло и в этот раз. Всем парадом командовал Николай Адамчик вместе со своими помощницами. Сначала они описали нам общую картину фильма, после чего перешли к формальным делам этого проекта: назывались имена и фамилии присутствующих, их домашние телефоны, а позже попросили всех предъявить паспорта, было такое ощущение, что все вместе подъезжаем к таможенному осмотру.



Фота Мікалая Супруна

Меня интересовал вопрос: что заставило людей прийти сюда, разом покинуть домашние дела, удобные кресла перед телевизором? В ответ я услышала: «Интерес. Многие из нас сами были свидетелями военных действий в Слониме и в других городах Беларуси. Хотим показать людям, как это было всё на самом деле". А для некоторых это была просто традиция. «У меня родственники играли и в «Миколке-паровозе», и в других фильмах, которые снимались в Слониме. Вот и я решила не отставать от них», — призналась пожилая женщина.

Что же касается молодёжи, то и девушки хотят попробовать свои силы. «А вдруг окажется, что мы будущие звёзды мирового кино! Вот это и будет наша первая ступень на подмостки великого искусства», — улыбаясь, говорили красивые слонимчанки.

**Елена КУЛЕШЕВИЧ**

НАВІНЫ

## Находки времен войны

**Во время земляных работ при строительстве пилорамы в деревне Деречин строителями фирмы "Сапежич" на глубине около трех метров обнаружены тридцать штук винтовок-"трехлинеек" и 39 штук гильз времен второй мировой войны.**

В этот же день весь боевой арсенал был передан в Зельвенский райвоенкомат.

По словам военного комиссара Зельвенского района подполковника Сытых, в Деречине и окрестностях широко действовала партизанская бригада "Победа" под командованием П.И. Булака, жителя близлежащей деревни Острово. Что касается находок военного времени, то на территории Зельвенского района чаще всего находят более смертоносный груз — снаряды и мины. Подтверждением этих слов стал найденный недавно артиллерийский снаряд 75 мм калибра. Обнаружили его комбайнеры при проведении жатвы. Снаряд вывезен и обезврежен саперами слонимской механизированной бригады.

## Медаля не дачакаўся

**Нядаўна па ўліковых дадзеных цэнтральнага архіва міністэрства абароны Расійскай федэрацыі Зэльвенскім райваенкаматам было ўстаноўлена, што медалём "За баявыя заслугі" быў узнагароджаны наш зямляк Іван Ракевіч.**

Ён праходзіў службу ў 204 зенітна-стралковым палку 1 Прыбалтыйскага фронту. Шкада, але ўзнагароду салдат пры жыцці так і не атрымаў, аднак яго родным выдадзена пасведчанне.

Сёння ж у Зэльвенскім раёне жыве крыху больш за 250 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.

**Пётр ЖЭБРАК**

ЗДАРЭННІ

## Крадуць з кватэры

**Днямі ноччу невядомыя злодзеі цалкам "абчысцілі" кватэру жыхара Брэсцкай вуліцы г.Слоніма М.**

Яны ўкралі тэлевізар, музычны цэнтр, відэакамеру, відэамагнітафон, два тэлефонныя апараты, таксама спіртныя напоі і цукеркі.

## ...з лазні

**Нядаўна двое наведвальнікаў слонімскай лазні паведамілі ў міліцыю аб тым, што невядомы злодзей украў іхняе адзенне і бялізну.**

Хутка міліцыя устанавіла і затрымала злодзея. Ім аказаўся 23-гадовы непрацуючы слонімец Р.

## ...з кіёска

**На мінулым тыдні ноччу з кіёска, які знаходзіцца на слонімскім рынку, зніклі яблыкі, алей і іншыя прадукты.**

Міліцыя ўстанавіла, што начным наведвальнікам кіёска быў 18-гадовы слонімец О.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ПРАБЛЕМА

## Куды ідзём?

У мінулую суботу гандаль мясам на слонімскім рынку ішоў марудна. Бо цэны былі вар'яцкія: кілаграм свініны каштаваў 700-800 тыс. руб., а кілаграм цяляціны — яшчэ даражэй. Людзі падыходзілі да прылаўкаў, прыцэньваліся, але, пачуўшы пра кошт, адыходзілі прэч.

Набліжаўся поўдзень. "Мяснікі" пачалі збірацца дамоў. Прылаўкі адзін за адным пусцелі. Паміж прылаўкамі стаялі тоўстыя калоды для рубкі мяса, пакуль што не ачышчаныя і не пасыпаныя соллю. І раптам я ўбачыў, як да адной з калод падышла бабулька гадоў васьмідзесяці і тонкімі дрыжачымі пальцамі стала збіраць маленькія крупінкі мяса і касцей, што засталіся на калодзе і заселі ў дрэве. Старая на людзей не звяртала ўвагі, а хутка рабіла сваю справу, якой, як мне падалося, яна займалася не першы раз. Праз хвіліну, заўважыўшы мой пільны позірк, на старую звярнулі ўвагу і дзве гандляркі мясам, якія яшчэ не пакінулі рынак. Але тое, што рабіла жанчына, відаць, выклікала ў іх агіду і, адвярнуўшы галовы, яны зноў утыкнуліся насамі у свой мясны тавар."Зараз адна з іх возьме кавалачак мяса і падасць старой,"— падумалася мне. На жаль, такога не адбылося.

Глянуўшы ўбок, я заўважыў маладзіцу гадоў трыццаці, якая таксама глядзела на старую. — Бабуля! — паклікала яна. — Я вам дам крыху мяса!

Расхіліўшы сваю карычневую торбу, жанчына дастала адтуль невялікі кавалачак мяса і падала ў дрыжачыя рукі старой. Тая ўзяла, пакланілася і пайшла дамоў.

— Гэта ваша знаёмая? — запытаў я, кіўнуўшы услед бабулі.

— Не, проста бачыла, як яна з калоды збірае крошкі. Падумала: не дай Божа самой дажыць да такога, — уздыхнула жанчына.

Пакідаў я рынак з болем у душы: куды мы ідзём? Да якога берага прычалілі?..

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ПОЧТА

## Золотая свадьба

**В нашей семье в этом году произошло приятное событие. Мои дедушка Михаил Григорьевич и бабушка Екатерина Лаврентьевна Юрики отпраздновали золотую свадьбу.**



Говорят, что жизнь человека проверяется по построенным домам и воспитанным детям. В этом отношении они заслуживают особого уважения. Живя всю жизнь "рука об руку", наши близкие люди воспитали троих детей, десять внуков, троих правнуков. И построили своими руками детям пять домов. А если собрать всех друзей, знакомых, родных и так просто людей, которым они всю жизнь делали добро, — это будет большая семья. Раньше через вашу газету мы уже поздравляли наших родных людей с этим праздником, а теперь хотелось, чтобы они ещё раз вспомнили те незабываемые минуты.

**Светлана МАСЮК**

## Чтобы согреть сердце

Маргарита Тимофеевна — человек пожилой, вырастила сыновей, имеет внуков, все поразъехались, очень давно живёт одна.

Много лет нет возле неё человека, о котором она могла бы заботиться, кормить, ухаживать, согревать. Тимофеевну это не тяготило, она привыкла к одиночеству. Но вот как-то вечером она возвращалась от сына. Какое-то расстояние до автобуса надо было пройти пешком. Стемнело, свет почему-то не зажгли, а дорога - лужи, ухабы, грязь. Идёт рядом с ней мужчина, тоже запинается за каждую кочку. Разговорились. О том, что дороги плохие, что фонари не горят... идти всё трудней и трудней становится. И тут этот человек ненавязчиво, мягко, но в то же время уверенно взял Маргариту Тимофеевну под локоть. И повёл. Идти сразу стало легче, женщина почувствовала опору. И ещё она поняла: это очень хороший и добрый человек. Лица его она не видела, возраст тоже в темноте определить невозможно было. Так они и дошли до остановки.

Подошёл автобус, они сели в него порознь, где места свободные были. И больше не обмолвились ни единым словом. Маргарита Тимофеевна не видела, сошёл он раньше её или проехал дальше. А на неё нашла такая грусть... Она как будто помолодела душой. И не на 10-15 лет, а на все 30.

Оказывается, нам, женщинам, совсем немного нужно — чуть-чуть теплоты, чтобы согреть сердце.

**Лилия ПРУДНИКОВА**

НОВОСТИ

## Грядёт передел Гродненской области?

По мнению специалистов, пришло время для пересмотра административно-территориального деления Гродненской области.

Они считают, что существующий административный раздел давно доказал свою неэффективность. Мизерные размеры районов приводят к тому, что удельный вес промышленной продукции в общем объеме здесь очень невысокий — от 0,1-0,6% до 1-1,3%.

В свое время Министерство экономики Беларуси разработало методику оптимизации территориально-отраслевых структур народного хозяйства Гродненщины, согласно с которой район должен иметь площадь 3,5-5 тысяч квадратных километров с населением 130-230 тысяч человек. В промышленности должно быть задействовано не менее 25 процентов, в сельском хозяйстве — примерно 22, в непроизводственной сфере — около 27 процентов от общей численности работников. Кандидат экономических наук, заведующий Гродненского отделения проблем социально-экономического развития Министерства экономики страны, академик Аркадий Мороз считает, что сегодня пришло время для пересмотра административно-территориального деления и законодательных актов о местном и хозяйственном самоуправлении. По его мнению, надо внести поправки в Конституцию с тем, чтобы районы получили больше самостоятельности и прав. Гродненщине достаточно иметь не более шести районов.

Ученый, в частности, подсчитал, что валовой внутренний продукт в расчете на одного жителя области в прошлом году составил 1 145 долларов. Следует отметить, что Беларусь имела почти 5 000 долларов на каждого своего гражданина в начале 90-х годов.

**БелаПАН**

 

